 


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 8 (1043) ГОД XXI 22 ЛЮТАГА 1976 г. ЦАНА 60 гр.


Новыя вершы

## Памяць

*Усе ў нябыт сыходзяць даты...*
*А тыя... Тыя на вякі:*
*Як надзявалі мы, салдаты,*
*Не з лаўраў звітыя вянкі,*
*А каскі —*
*мужнасці адзнаку.*
*І як затым у першы раз*
*Ішлі, прыгнуўшыся, ў атаку,*
*Як долу кулі гнулі нас,*
*І як таварышаў хавалі,*
*І як маўчалі той парой,*
*Бо заўтра зноўку бой...*
*І зналі,*
*Што не пайсці нам нельга ў бой.*
*Што покуль ёсць на свеце кодла*
*Фашысцкай нечысці, датуль*
*Сама сабой не знікне подласць —*
*І мусім падаць мы ад куль.*
*І мусім гэтак-жа цярпліва*
*Дэвіз свой несці праз вякі:*
*Дзе бой ідзе за справядлівасць —*
*Заўсёды там франтавікі.*
*І хоць не носім мы медалі,*
*Бо беражэм на святы іх, —*
*З сябе ніколі не складалі*
*Мы абавязкаў франтавых.*

**Алесь Бачыла**

# ЁСЦЬ ЯНЫ — РЭЗЕРВЫ!

Рэзервы. Яны сапраўды ёсць! Усюды, самыя розныя, простыя, аж у вочы колюць і пракурорскай рукі просяць, ды болей складаныя, не кожнаму даступныя.

Ва ўсім гэтым пераканаўся я, пабываўшы нядаўна ў Гайнаўскай гміне. Праваднiком па гаспадарчых праблемах быў у мяне сакратар гміннага камітэта ПАРП таварыш **Ян Скепка**, дапамаглі іншыя, неабыякавыя да грамадскага дабра людзі.

Найперш мы разгаварыліся аб вясковых сходах, прысвечаных абмяркоўцы праблем VII з'езду партыі. Такія сходы адбыліся ў Рэпісках, Махнатым, Новым Беразове, Новым Корніне і ў многіх іншых вёсках.

Дзе тут рэзервы?

Ёсць яны, ды яшчэ якія! Перш за ўсё ў нарыхтоўцы і разважлівым выкарыстанні кармоў — так, каб жывёла была сытая і да вясны заўсёды хапала. Трэба вучыць, паказваць, пераконваць.

— У гэтым годзе, — гаворыць таварыш Скепка, — рашылі мы болей грунтоўна выкарыстаць вопыт добрых гаспадароў, асабліва ў галіне развіцця і адкорму жывёлагадоўлі. Усё, што ўжо выпрабавана і здало практычны экзамен у нашых умовах, а вядзе да ашчаднасці кармоў, мы будзем рознымі шляхамі даводзіць да ведама сялян Гайнаўскай гміны. Мяркую, што „Ніва" нам у гэтым таксама шмат дапаможа.

Дапамогу абяцаю і адразу прашу солтыса ды адначасова сакратара партарганізацыі вёскі Махнатае **Сяргея Кучко,** якога сустрэў я ў гмінным камітэце, каб падзяліўся ён сваім вопытам.

— Рэзервы... пэўна, што яны ёсць, — пачаў ён разважліва. — Мы гаварылі пра іх на супольным сходзе членаў партыі і членаў аб'яднанага людовага стронніцтва ў нашай вёсцы. Найбольш галасоў было за тое, каб больш сістэматычна пастаўляць гаспадарам сыроватку і маслянку і каб развозіць гэтыя прадукты непасрэдна гаспадарам, каб сяляне не вымушаны былі самі ганяцца аж у Гайнаўку за гэтым дасканалым і высакаякасным кормам. Гаварылі таксама ў нас пра болей разважлівае выкарыстанне сухіх, аб'ёмістых кармоў, асабліва сена...

Успомнілася мне вельмі характэрная для з л а д з е й с к а й гаспадарчай абыякавасці гісторыя пра сена ў новаберазоўскім філіяле ПГР-у Рудка. Колькі там кіраўнікоў не змянялася, а дабра, як не было, так і няма — усё адны затраты. Летам мінулага года скасілі першы пакос буйнай сенажаці і... не сабралі! Адны кажуць, што 10 гектараў, іншыя лік гэты амаль падвойваюць. Так ці інакш, каштоўны корм — згнаілі. Пасля пачалі рабіць сіласы... Цягнулася гэта месяц часу. І зноў атрымаўся... гной...

Журналісцкага голасу тут мала. Патрэбна пракурорская рука, узброеная адпаведнымі параграфамі, патрэбна таксама разумная рада добрых спецыялістаў, якія знайшлі б нейкія спосабы выхаду новаберазоўскаму ПГР-у на шлях дбайнай і высокатаварнай гаспадаркі.

З Новага Беразова адпраўляемся ў Навасады, дзе за вёскаю, за чыгуначнай дарогай знаходзіцца аграмадная свінаферма, гаспадаром якой з'яўляецца СКР Гайнаўка. Пра яе я ўжо, зда-

(Працяг на стар. 4)

# МАГАЗІН-ГІГАНТ




Важнае для ўсіх беластаччан і тых, што прыязджаюць у Беласток за пакупкамі (у апошні час нават варшавяне): няхай схаваецца таварны дом „Новы"! У Беластоку, на скрыжаванні вуліц Кюры-Складоўскай і Весялоўскага стаіць новы магазін-гігант пад гучнай назвай „Цэнтраль".

Доўга чакалі ўсе заканчэння будовы і адкрыцця новага універмага. Ну, і дачакаліся. Пагляньце, колькі легкавых машын з варшаўскай рэгістрацыяй стаіць ля „Цэнтраля"! А гэта аб нечым гаворыць. Выбар багаты, і не знойдзецца такога, хто б вышаў з новага магазіна з пустымі рукамі. Можна тут купіць усе прамысловыя тавары, неабходныя ў штодзённым жыцці.

У магазіне пакупкі адбываюцца ў асноўным сістэмай самаабслугоўвання. Адным словам, хутка і спраўна. Гадавы тавараабарот прадугледжвае 356 мільёнаў злотых. У новы магазін тавары беспасрэдна (у 70%) будуць паступаць ад прадуцэнта, а гэта абазначае, што будуць яны хутка і верна трапляць да пакупніка.

У новым універмагу працуюць 272 асобы. Для іх створаны добрыя ўмовы працы. Ёсць тут пакоі для адпачынку, сталовая, медыцынскі пункт, ёсць таксама кліматызацыя, дзякуючы якой будзе рэгуляваецца тэмпература паветра ў „Цэнтралі".

Новы гандлёвы аб'ект з'яўляецца адным з большых і сучасных у Польшчы. У яго архітэктуры прыменена сталёвая канструкцыя. Ажурная, алюмініевая элевацыя сцен дазволіла пазбегнуць вялікіх вокан, праз якія праходзіла б вялікая колькасць некарысных у даным выпадку сонечных праменняў.

Каля магазіна ўладальнікі самаходаў могуць пакінуць сваю машыну, паколькі побач знаходзяцца паркінгі на 80 месц.

Заходзьце ў новы магазін-гігант! На першым паверсе вы зможаце купіць там усё, што патрэбна вам у хатняй гаспадарцы, на другім — вопратку, матэрыялы і многа чаго іншага.

**А. Ч.**
Фота **Я. Цялушэцкага**



# НАСТАЎНІЦКІ ШЛЯХ

Ён належыць да таго пакалення нашай працоўнай інтэлігенцыі, якой жыццё не паскупіла крутых паваротаў і суровых выпрабаванняў.

Дырэктар васьмікласнай пачатковай школы ў Вольцы Нурэцкай, што ў Мілейчыцкай гміне, *Пётр Зубрыцкі* паходзіць з сялянскай сям'і з мястэчка Нарва. Там закончыў пачатковую школу, там таксама сплыло яго летуценнае дзяцінства і юнацтва: вясной ды ўлетку за статкам кароў і ў тупанні каля гаспадаркі, а ўвосень і ўзімку спачатку ў школе, а потым пры малацьбе. Зрэдку перападаў сякі-такі заробак, дзе адзін злоты за ўвесь дзень працы лічылася не абы-якім шанцам.

Першы паварот у бесперспектыўным жыцці маламестачковага хлопца на-

(Працяг на стар. 4)



*Дырэктар васьмікласнай школы ў Вольцы Нурэцкай П. Зубрыцкі на ўроку беларускай мовы ў VIII класе.*

 

# ШТО НОВАГА?

## За кулісамі „Свабоднай Еўропы"

Прага. 29 студзеня тут адбылася прэс-канферэнцыя, на якой выступіў афіцэр чэхаславацкай разведкі Павел Мінаржык, што вярнуўся гэтымі днямі на радзіму пасля сямігадовай работы на Захадзе.

Ён паведаміў, што з 1968 года і па нядаўнія дні працаваў на падрыўной радыёстанцыі ў Мюнхене, якая крывадушна называе сябе „Свабоднай Еўропай", хоць яна мае мала чаго агульнага з Еўропай і зусім нічога са свабодай. У поўнай меры гэта адносіцца і да радыёстанцыі „Свабода", якая перадае на мовах народаў СССР, сказаў П. Мінаржык.

У абодвух выпадках, падкрэсліў разведчык, размова ідзе аб інструментах падрыўной шпіёнскай дзейнасці Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША, накіраванай супраць краін сацыялістычнай садружнасці.

Радыёстанцыя ў Мюнхене выконвае таксама функцыі кіруючага цэнтра эмігранцкіх арганізацый, каардынуючы іх дзейнасць супраць краін сацыялістычнай садружнасці.

Для кіраўніцтва радыёстанцыямі ў 1974 годзе пры кангрэсе ЗША быў створаны „камітэт па пытаннях міжнародных перадач". У кастрычніку 1975 года ён выдаў даклад аб іх дзейнасці, дзе паведамлялася, што абедзве радыёстанцыі сканцэнтроўваюць сваю ўвагу на зборы інфармацыі і аналізе становішча ў СССР і іншых сацыялістычных краінах. Гэтым пытанням прысвечана 44-60 працэнтаў іх часу ў эфіры.

Хацеў бы напомніць, сказаў Мінаржык, што гэты даклад быў падрыхтаваны ўсяго праз два месяцы пасля падпісання ў Хельсінкі Заключнага акта агульнаеўрапейскай нарады.

Кіраўніцтва радыёстанцыі ў Мюнхене арыентавала на барацьбу супраць ідэі еўрапейскай бяспекі і супрацоўніцтва і эмігранцкія арганізацыі. Гэта дзейнасць накіроўваецца ЦРУ. Яна добра вядома ў „камітэце па пытаннях міжнародных перадач" пры кангрэсе ЗША, а таксама ў дзяржаўным дэпартаменце ЗША.

Старшыня „камітэта па пытаннях міжнародных перадач" Дэвід Эбшыр паведаміў, што па пытаннях дзейнасці „Свабоднай Еўропы" і „Свабоды" ажыццяўляюцца рэгулярныя кантакты з амерыканскімі пасламі ў СССР і іншых сацыялістычных краінах, пункты гледжання якіх прымаюцца да ўвагі.

Ідэя стварэння радыёстанцый у Мюнхене нарадзілася ў ЦРУ. Пад поўным і непасрэдным кантролем амерыканскай разведвальнай службы ажыццяўлялася кіраўніцтва імі. Цяпер гучаць сцвярджэнні, што, маўляў, эра ЦРУ на гэтых радыёстанцыях закончылася ў 1971 годзе, як паведамляюць адны крыніцы, або ў 1972 годзе, як заяўляюць іншыя. З самага пачатку сваёй работы ў „Свабоднай Еўропе" я меў цэлы рад доказаў аб рабоце ЦРУ па кіраванню „Свабоднай Еўропай", аб спосабах і метадах гэтай работы.

Я магу з поўнай адказнасцю заявіць перад усёй сусветнай грамадскасцю, сказаў П. Мінаржык, што розныя фармальныя рэарганізацыі статута радыёстанцый у Мюнхене з'яўляюцца толькі ашуканствам амерыканскай і сусветнай грамадскасці, што сутнасцю „Свабоднай Еўропы" і „Свабоды" па-ранейшаму застаюцца ідэі халоднай вайны і што ЦРУ па-ранейшаму захоўвае ў іх свае пазіцыі.

Агенты ЦРУ, якія працавалі на гэтых радыёстанцыях, застаюцца там і па гэты дзень на кіруючых месцах. Гэтыя радыёстанцыі былі і засталіся разведвальнай і прапагандысцкай службай і органам амерыканскага шпіянажу, падкрэсліў П. Мінаржык. ЦРУ праз сваіх людзей і з дапамогай адпаведнага знешняга камуфляжа вызначае таксама праграму перадач і работу філіялаў абедзвюх станцый у Парыжы, Рыме, Лондане, Вене і Бруселі.

60 працэнтаў іх амерыканскага персаналу складаюць штатныя або няштатныя супрацоўнікі ЦРУ або ваеннай разведвальнай службы „Джы-2". Існаванне гэтых падрыўных радыёстанцый з'яўляецца грубым парушэннем норм міжнароднага права, Статута ААН, а таксама прынцыпаў, якія ўрады 35 краін, у тым ліку ЗША і ФРГ, замацавалі ў Хельсінкі.

*М. Абелеў*

### ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

У Мінску 27 студзеня адбылася рэспубліканская ўстаноўчая канферэнцыя Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (Беларускае таварыства „Радзіма"). У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, устаноў, міністэрстваў і ведамстваў БССР, рэспубліканскіх саюзаў і аб'яднанняў, друку, радыё і тэлебачання.

## НОВАЕ ТАВАРЫСТВА „РАДЗІМА"

Дакладчык — старшыня аргкамісіі, народны артыст СССР Р. Р. Шырма і выступіўшыя ў спрэчках падкрэслівалі, што актыўная знешнепалітычная дзейнасць ЦК КПСС і Савецкага ўрада па ажыццяўленню выпрацаванай XXIV з'ездам партыі Праграмы міру прывяла да значнага змякчэння міжнароднай напружанасці, далейшага ўсталявання прынцыпаў мірнага суіснавання.

Перад новай грамадскай арганізацыяй — Беларускім таварыствам „Радзіма" — стаяць важныя задачы па растлумачэнню за рубяжом знешняй і ўнутранай палітыкі нашай сацыялістычнай дзяржавы, выхаванню ў суайчыннікаў патрыятычных пачуццяў, выкрыццю антысавецкай прапаганды.

На канферэнцыі ўказвалася на неабходнасць актывізацыі работы з той мэтай, каб дакументы, матэрыялы, рашэнні XXV з'езду КПСС сталі шырока вядомы сярод нашых землякоў за рубяжом. Трэба ўсямерна пашыраць кантакты і культурныя сувязі з прагрэсіўнымі зарубежнымі арганізацыямі суайчыннікаў для захавання і ўмацавання міру, у інтарэсах дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі статут, а таксама выбралі Савет Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом. На першым яго пасяджэнні выбраны прэзідыум. Старшынёй прэзідыума выбраны народны артыст СССР Р. Р. Шырма.

У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі госці з Украіны, Літвы і Латвіі, якія прадстаўляюць таварыствы і камітэты па культурных сувязях з зарубежнымі суайчыннікамі.

(Белта)

*Музей працоўнай славы Мінскага аўтамабільнага завода.*

*Фота Э. Трыгубовіча.*

## УНІВЕРСАЛЬНЫ ДАВЕДНІК НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

### НА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

Гэтыя дванаццаць аб'ёмістых амарантавых тамоў з залацістым цісненнем на вокладках — **Беларуская Савецкая Энцыклапедыя** — па праву могуць лічыцца самым велічным дасягненнем сучаснай беларускай савецкай навукі і паліграфічнай прамысловасці БССР.

У стварэнні гэтага манументальнага выдання прыняў удзел вялікі калектыў самых выдатных прадстаўнікоў навукі БССР і іншых савецкіх рэспублік — больш за 5 тысяч аўтараў, сярод іх 125 акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў Акадэміі навук СССР, Акадэміі навук БССР і галіновых акадэмій навук, 544 дактары навук і прафесары, 1650 кандыдатаў навук, партыйныя і дзяржаўныя работнікі, спецыялісты па розных галінах жыцця. У выніку іх працы ў БелСЭ знаходзіцца 34 тысячы 409 артыкулаў і, апрача гэтага, выдадзен спецыяльны, дванаццаты том, цалкам прысвечаны Беларускай ССР. Разам у БелСЭ знаходзім звыш 13 тыс. ілюстрацый і карт, у тым ліку 1554 ілюстрацыі і 172 карты шматкаляровыя. За адносна кароткі час, няпоўныя шэсць год (1969-1975), з паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа ў Мінску выйшла ў свет 300 тысяч экземпляраў (кожны том БелСЭ выдадзен тыражом у 25 тысяч экземпляраў), г.зн. 192 мільёны 200 тысяч старонак убарыстага тэксту ў дзве калонкі кожная!

„Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (БелСЭ) выдаецца ўпершыню ў гісторыі беларускага народа, — заўважае ва ўступным артыкуле яе рэдакцыйная калегія і далей падкрэслівае, што „такая знамянальная падзея стала магчыма ў выніку магутнага росту сацыялістычнай народнай гаспадаркі, навукі і культуры Савецкай Беларусі, дзякуючы жыватворнаму дзеянню ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі".

Цэнтральнае месца ў БелСЭ займае Беларусь, яе гісторыя і сучаснасць, эканоміка, навука, культура, прырода, гарады, мястэчкі і сёлы; постаці яе выдатных дзеячоў з мінулага і нашай сучаснасці. БелСЭ — гэта ўсебаковая крыніца беларусазнаўства, на самай справе „выданне, вартае народа, які мае багатую і слаўную гісторыю, гераічную сучаснасць і разам з усімі братнімі народамі СССР паспяхова будуе камуністычнае грамадства".

Побач з беларускай праблематыкай у БелСЭ значнае месца адведзена іншым народам СССР, а таксама краінам усяго свету і сярод іх — нашай Айчыне, Народнай Польшчы. Ва ўсіх яе тамах знаходзім шмат матэрыялаў аб Беласточчыне. Якраз на іх мы і хочам звярнуць увагу ў цыкле нашых артыкулаў „На старонках Беларускай Савецкай Энцыклапедыі". Спадзяемся, што яны зацікавяць нашых чытачоў. І так, пачынаем ад тэмы —

### СУЧАСНАЯ БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў БЕЛСЭ

Перш за ўсё ў артыкуле „Польшча" (т. VIII, с. 502-12) чытаем: „Развіваюцца дружалюбныя адносіны паміж ПНР і БССР па лініі дзяржаўнай, партыйнагрмадскай, паміж асобнымі калектывамі працоўных, супрацоўніцтва ў галіне эканомікі, навукі, культуры. На нафтаперапрацоўчы камбінат у Плоцку па нафтаправодзе „Дружба" ідзе і беларуская нафта. ПНР удзельнічала ў будаўніцтве Салігорскіх калійных камбінатаў (у БССР — І. С.) і атрымлівае частку іх прадукцыі. Больш за 30 прадпрыемстваў БССР выконваюць заказы польскай прамысловасці. Расшыраецца экспарт польскіх тавараў на Беларусь. Шматгадовае супрацоўніцтва паміж Брэсцкай, Гродзенскай абласцямі і Люблінскім, Беластоцкім ваяводствамі, паміж Мінскай, Віцебскай абласцямі і Варшаўскім, Зялёнагурскім ваяводствамі. Пэўны абмен вядуць ВНУ БССР і ПНР, АН БССР і АН ПНР". У гэтым жа артыкуле памешчан здымак г. Беластока, і адзначана, што ў Польшчы „жывуць таксама ўкраінцы, беларусы (пераважна ў Беластоцкім ваяводстве), літоўцы і інш.", а ў артыкуле

(Працяг на стар. 4)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 21.II.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 8.50 Zepchnięci w Ciemność — film fab. 10.00 Dla szkół (kl. VII) Zool. Ryby słodk. i morskie. 11.05 (kl. VIII) Geogr. Wzdłuż Andów. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 15.00 Red. Szk. zap. 15.10 Pr. I prop. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Jazdy na nartach uczy Karl Schranz. 15.40 Dzien. 15.50 Obiektyw. 16.10 Za kierownicą. 16.30 ZWIĄZEK RADZIECKI MIĘDZY ZJAZDAMI. 17.00 Halowe ME w Lekkiej Atletyce. 18.20 Sobota Mł. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Saskatchewan — film fab. USA. 21.45 Dzien. 22.05 Sport. 22.15 Pr. estrad. 22.55 Opow. Star. Pana.

**Niedziela 22.II.** 6.25 Tech. Rol. Mat. 6.55 Mech. rol. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Krzysztof Kolumb — film ser. 11.50 Lekt. Pegaza. 12.10 Dzien. 12.30 Spadkobiercy zwycięstwa — film radz. 13.40 Piórkiem i węglem. 14.05 Dla dzieci: L. J. Kern — Zagadkowy dziadek — wid. lalk. 15.00 Los. Duż. Lot. 15.15 Sport. 17.35 Nie tylko piosenka. 18.15 Refl. ob. 18.30 Operowe qui pro quo. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.35 Widowisko muz. 21.55 Ofiara — film ser. (Nana). 22.40 Sport.

**Poniedziałek 23.II.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.10 Wesele — film ser. (Stülpner — zbójnik z gór). 18.55 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Teatr TV: B. Brecht — „Opera za trzy grosze''. 21.55 Dzien. 22.10 Śpiewa E. Strzałkowska. 22.30 Pr. publ.

**Wtorek 24.II.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 9.00 Dla szkół (kl. V) J. pol. Spotk. z pisarzem. 10.00 (kl. II lic.) J. Słowacki. „Balladyna''. 11.05 (kl. VII—VIII) Wych. plast. Architekt. wnętrz. 12.00 (kl. IV lic.) J. pol. B. Brecht. Matka Courage i jej dzieci. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pr. muz. 17.25 X Y Z — cz. I. 17.55 Stud. Tel. Mł. 18.45 Fakty, Op., Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Nieznajoma z baru Bolero — film ser. (Trzecia granica). 21.20 Świat i Polska. 22.05 Dzien. 22.20 Śpiewa L. Senczina.

**Środa 25.II.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Upr. rośl. 7.00 W drodze do nowego. 8.00 Nieznajoma z baru Bolero — film ser. 9.00 Dla szkół (kl. VII) Chem. Wiązanie chem. 10.00 Fiz. O cieple. 11.05 (kl. VIII) Fiz. Śladami Maxwella. 12.00 Chem. Pożyt. związki wapnia. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 14.40 Kurs Przyg. na wyższe ucz. Fiz. 15.15 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.45 Los. Mał. Lot. 18.00 Koronni świadkowie — film dok. 18.30 Pr. muz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Sybiraczka — film fab. radz. 22.30 Dzien.

**Czwartek 26.II.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 7.00 Sybiraczka — film fab. radz. 9.05 Dla szkół (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. Współcz. broń. 10.00 (kl. II lic.) J. pol. Mickiewicz, Słowacki, Krasiński. 11.05 (kl. III lic.) Skamandryci i Awangarda. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Fiz. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z brat. 18.05 Poligon. 18.25 Hasior w studio — rep. 18.40 Anatom. sukcesu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Złoto Londynu — film fab. wł.-ang. 22.00 Dzien. 22.15 Stud. z Pegazem.

**Piątek 27.II.** 6.00 Tech. Rol.. J. pol. 6.30 Fiz. 7.30 Złoto Londynu — film krym. wł.-ang. 9.00 Dla najmł. (kl. III) Nuty pana Fryderyka. 10.00 (kl. VI) Geogr. W Krainie Wielkich Dolin. 11.05 (kl. VII) Wych. ob. Szkoła środowisk. szkołą przyszł. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Kurs Przyg. na wyższe ucz. Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Latający Holender. 18.05 Inf. Wyd. 18.20 Giełda report. 18.55 Człowiek i przyroda — film dok. hiszp. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.45 Pr. rozr. 21.25 Drogowskazy. 22.10 Żywoty instrument. 23.10 Dzien.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 20.II** — 8.15 Film fab. 13.20 Film fab. 16.30 Koncert. 19.30 Hokej. CSKA—Chimik.

**Sobota 21.II** — 10.05 Koncert. 11.40 Film fab. 12.50 Hokej. Dynamo (Moskwa) — Torpedo. 15.00 W świecie zwierząt. 16.45 Film fab. 19.30 Spotk. teatr. 21.05 Łyżwiarstwo szybkie. M. Św.

**Niedziela 22.II** — 11.30 Film fab. 12.50 Hokej. Spartak-Traktor. 14.15 Panorama międzynar. 15.00 Lekkoatletyka. Halowe ME. 16.25 Film fab. 18.00 Klub film. 19.30 Zaprasza stud. konc. w Ostankino.

## КІНО

**Białowieża** Dramat namiętności — kan. 24—25. Pułapka w delcie Dunaju — rum. 26—27. Ballada o Kowpaku — radz. 28—29.

**Czeremcha** Wspaniały interes — wł. 24—25. Awans — pol. 28—29.

**Czyże** Polska gola — pol. Odstrzał — USA. 25—29.

**Dubicze Cerkiewne** Weronika w kraju czarów — rum. Ktoś za drzwiami — fr. 25—29.

**Gródek** Dramat namiętności — kan. 28—29.

**Kleszczele** Śmiałość — radz. 24—25. W drodze na Kasjopeję — radz. 26—27. Charley Varrick — USA 28—29.

**Michałowo** Haiti wyspa przeklęta — USA 24—25. Konformista — wł. 26—27. Zbrodnia w klubie tenisowym — jug. 28. Droga do ojczyzny — pol. 29.

**Milejczyce** Śmierć na zakręcie — NRD 24—25. Tomcio Paluch — fr. 26—27. Doktor Judym — pol. 28—29.

**Narew** Przygody Hucka Finna — radz. Godzina za godziną — pol. 25—29.

**Narewka** Gorący śnieg — radz. Tylko wtedy gdy się śmieje — 25—29.

**Nurzec** Wynajęty człowiek — USA 24—25. Przygody małego Bambino — rum. 26—27. Czerwone i białe — pol. 28—29.

**Orla** Był sobie drozd — radz. Queimada — wł. 25—29.

**Rajsk** Pierwsza spokojna noc — wł. Płonąca tajga — radz. 25—29.

B.Z.Graf. Zam. 389 F-2

# Няма гора ў Рыгора

Верамеюк Рыгор з Аўгустова, што ў Бельскай гміне, як і кожны селянін, цесна звязаны з гаспадаркай. Таксама як і ўсе: арэ, сее, косіць, зорка сочыць, каб нават найменшы кавалак з яго дванаццаці гектараў не застаўся ляжаць аблогам. Кожная пядзь зямлі з году ў год дыхае жыццём. Тут на двухгектаравым прасторы шэпчацца ячмень з пшаніцай, там у абдымках сонечных праменняў расплываецца жоўтай усмешкай амаль цэлы гектар рапсу, а вунь пры самай мяжы, нібы мора, хвалюецца паўтара гектара сінявокага ільну. Не крыўдзіць ён і бульбы. І яна мае свой куток паверхняю каля двух гектараў, з якіх кожны год дванаццаць тон атрымлівае наша дзяржава.

Па кароткім аглядзе палёў давайце заглянем на панадворак гаспадара. Вялікі, прыгожы, мураваны дом з тэлевізійнай антэнай так і запрашае:

— Заходзьце далей!

І вось мы знаходзімся на шырокім панадворку, забудаваным рознымі гаспадарчымі будынкамі. Следам за гаспадаром накіроўваемся да тых, дзе, чакаючы першых подыхаў вясны, прымасціліся на зімовы адпачынак сельскагаспадарчыя машыны. Многа трэба было б пералічаць, але, агульна гаворачы, ёсць тут усе, у якія можна запрэгчы каня. Аднак у гаспадарцы Р. Верамеюка ўсе яны ўжо памалу становяцца пeражыткам. Уваходзіць поступ. Сведчыць аб гэтым новы трактар, які, спіхнуўшы на далейшы план каня, пачаў уводзіць свае парадкі.

А вось машыны зусім іншыя: млынок для чысткі зерня, малатарня, крайзэга. Тут ані конь — ані трактар. Тут панам з'яўляецца ток.

— А што гэта? Што гэта за такі вялікі белы будынак?

— Гэта кароўнік, — паясняе нам гаспадар.

Так, гадоўля з'яўляецца тым агеньчыкам, за святлом якога ідзе наш гаспадар. Праўда, жывёлагадоўляй займаўся ўжо ён і раней.

— Тады, аднак, было невядома як, — гаворыць. — Не ведаў, ці гадаваць свіней, ці букатаў?

Усё ж такі перамагло другое. Аднак, пачатак заўсёды цяжкі. Не хапала памяшкання, і Р. Верамеюк здаваў толькі па тры штукі ў год. Задума, аднак, нібы зерне, усё брыняла ды брыняла і нарэшце прарэзалася зялёным парасткам. І так з'явіўся кароўнік, а неўзабаве і чатырохногія жыхары — 10 букатаў і 7 цялят.

Адчыняюцца дзверы — і мы ўжо ў прасторным кароўніку, які змяшчае 17 штук. З аднаго боку — загарадзі, з другога — кармушкі. Каб аблегчыць працу, тут заложаны спецыяльны ланцуг для выгортвання гною.

Гадуе гаспадар і дойных кароў. Гэта як бы другі напрамак, аб якім у апошнюю хвіліну Верамеюк думае даволі сур'ёзна. Дзеля гэтага купіў ён шведскую электрычную даярку.

Семнаццаць і пяць — дваццаць дзве штукі. Многа! Летам то бяды няма. Амаль палавіна гаспадаркі — гэта лугі і абгароджаныя дротам, да якога падключаны „пастух", выганы. І як толькі зазелянее трава, букаты ды цяляты пакідаюць свой хлеў і цэлае лета пасуцца на волі, толькі што нейкі час гаспадар пераганяе іх з адной загарадзі ў другую. Зразумела, трава ж мусіць адрасці. Але ж такая пара не вечная. Халады позняй восені зноў заганяць іх у хлеў. Тады і падумай, чым карміць. Верамеюк не мусіць аднак так моцна думаць. Корму ў яго заўсёды хапае. Робіць травяны сілас, садзіць многа буракоў, насенне якіх атрымлівае з доследнага сельскагаспадарчага прадпрыемства ў Шэпятове, з якім ужо даволі доўга супрацоўнічае, а таксама абяспечваецца сенам. Калі жывёла дасягае 500 кг, тады наступае час продажу.

Рыгору Верамеюку 47 год. На гаспадарцы дапамагаюць яму жонка і дзеці, з якіх адзін сын вучыцца ў школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Бельску. Сам гаспадар таксама паглыбляе свае веды, здабытыя ў практыцы. Мае ён даволі вялікую бібліятэку сельскагаспадарчых кніг.

Але час развітацца з Рыгорам Верамеюком.

— Прыедзьце летам! Тады мая гадоўля павялічыцца ды ўбачыце, як гэта ўсё выглядае на выгане, — запрашае, паціскаючы на развітанне руку.

**М. Шаховіч**
**Фота Я. Цялушэцкага**



*Міхась Савіцкі, Мінск. „Добраахвотнікі".*

**АРТЫКУЛ ДЫСКУСІЙНЫ**

# ШТО з традыцыяй?

Шостага, сёмага і восьмага студзеня гэтага года я святкаваў у роднай вёсцы. Слова „святкаваў" тут поўнасцю апраўдвае сябе, бо гэта ж Каляды, першы і другі дзень Раждажства, а раўнапраўна святкуецца тут яшчэ і трэці дзень, толькі я з рацыі сваіх абавязкаў змушаны быў перарваць гэтае святкаванне. Памыляецца той, хто лічыць, што гэтыя традыцыйныя святы нашай вёскі страцілі сваё значэнне. Не, бадай не хутка яшчэ страцяць. Праўда, заціраюцца (а некаторыя ўжо беспаваротна загінулі) традыцыі, звязаныя з іх святкаваннем, але размах і фантазія ў іх падрыхтоўцы і святкаванні тыя ж самыя, а часам і большыя. Напрыклад, не можа быць і гаворкі аб тым, каб хто не святкаваў усіх трох дзён, хаця і мае тэрміновую работу, і не таму; як калісьці, што гэта багахульства, а проста таму, што гэта свята. А гляньма на багацейшы святочны стол. Чым розніцца ён ад дзедаўскага і прадзедаўскага святочнага стала? У суме нямногім. Ну, напэўна сама мэбля — стол іншы, бо і новы, і паліраваны, і крашаны, і накрыты таксама не даматканым абрусом, а фабрычным, але паміж гэтым сталом і абрусом, усё ж ляжыць духмянае, абавязкова грудавае, сена, а над сталом у куце прымацавана каляда. А на стале...? Вой! Чаго ж няма на гэтым стале? Жытні хлябец дамашняй работы ёсць, мяса і кілбасы, таксама ўласнага вырабу, ёсць, цёрты моцны хрэн ёсць, аладачкі, і то абавязкова на алеі, ёсць, цёрты мак ёсць, баравікі абавязкова ёсць, рыба... — рыба проста касякамі плыве на стол, а потым абавязкова яблычныя і грушавыя шчолкі. Усё ж гэта абавязкова мусіла быць і на дзедаўскім і прадзедаўскім стале, а правільней кажучы, таму мусіць быць на сучасным святочным стале, што было яно на дзедаўскім і прадзедаўскім стале. Розніца можа быць ізноў толькі невялікая. Цяпер гэтыя святочныя прысмакі больш багата пастаўлены, расстаўлены і з большай віртуознасцю прыгатаваны. Але віна тут не дзедаўская ці бадай бабак нашых, а заслуга не наша, а толькі і выключна капрызніцы-кулінарыі, якая не стаіць на месцы. Але на тым яшчэ не канец традыцыйнаму святочнаму меню. Кожны з нас, ураджэнцаў вёскі, дасканала помніць смак і святочнай куцці, і аўсянага кісялю, і, прабачыць мне грэшнаму традыцыя, скажам адкрыта, на наш час смакавыя якасці іх не ахці ўжо і якія. Аднак у традыцыйнай нашай сучаснай вёсцы мала на якім стале не ўбачыш іх, нягледзячы на тое, што на іх падрыхтоўку патрэбна і многа ўмення, і працы, і часу. А калі, па той ці іншай прычыне, іх не акажацца на святочным стале, то ўжо гаворачка пра іх напэўна будзе і то такая, што дай бог каб пра нас так гаварылі.

Час аставіць у спакоі святочны стол, а то каб часам традыцыйная кулінарыя не ўбаюкала нашага пачуцця меры і не давяла да непажаданых хвароб страўніка. Гляньма на іншыя калядныя традыцыі, ці ж іх больш не захавалася ў нас? Захавалася. Вось першы дзень свят. Ужо ад самага рання неспакойна на вуліцы. Гэта чародкі дзяцей і старэйшай моладзі. У іх усіх прыўзняты святочны настрой. Яны рыхтуюцца да калядавання. Калядаваць будуць і дзяўчынкі, і хлопчыкі, і нават старэйшыя, хто з звяздой, а хто проста так. Гэтая традыцыя, зразумела, дзе яна яшчэ захавалася, у асноўным нязменная ад цэлых стагоддзяў: і песні тыя самыя, і звязда больш-менш такая самая, і сам працэс калядавання традыцыйны. Спачатку калядуюць маленькія дзеці, часам дашкольнага ўзросту, ну, зусім яшчэ людынкі-крахатулькі, але як жа стройна і задзёрна цягнуць сваё „раждажаство", а потым, з кожнай новай партыяй, старэйшыя. І хаця іх, каляднікаў, вядзе пад вокны хутчэй усяго не адна традыцыя, а фінансавыя меркаванні, але ўсё ж такі традыцыя цікавая і забываць пра яе нам не варта. Гэтых традыцый засталося ў нас не так ужо многа і таму, па меры нашых магчымасцей, трэба іх аберагаць, апісваць, вывучаць і абнародаваць. І найбольшая роля ў гэтым павінна прыпасці, безумоўна, аддзяленню беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, як найбольш кампетэнтнай у гэтых справах і з найбольшымі магчымасцямі ўстанове. Варта было б, мне здаецца, больш смела апрацаваць адпаведныя тэмы нават на магістэрскія дысертацыі. Во дзе была б работа! Бо ў гэтай галіне ў нас дасюль зроблена вельмі нямнога. Сабрана, праўда, крыху фальклорнага песеннага матэрыялу, крыху казак і легенд, часткова распрацавана радаслоўная мясцовых назваў і гэта бадай

(Працяг на стар. 5)

# ХРОНІКА

Справаздачна-выбарная кампанія БГКТ набрала поўнага размаху. У многіх гуртках у канцы студзеня адбыліся сходы.

■ На справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Хілімонах (гміна Новы Двор) 31 студзеня прыбыў старшыня ГП Мікола Самоцік. Расказаў ён аб дзейнасці Беларускага таварыства ў беларускіх асяроддзях Польшчы. Прысутныя выбралі новае праўленне гуртка ў складзе: Уладзімір Сівіцкі — старшыня, Станіслаў Ганчарук — сакратар і Уладзімір Піруга — скарбнік. У рады БГКТ прынялі траіх сяброў.

■ 31 студзеня ў Ячне (гміна Дуброва Беластоцкая) у працах сходу гуртка БГКТ браў удзел намеснік старшыні ГП, галоўны рэдактар „Нівы" Георгій Валкавыцкі. БГКТ-оўцы выбралі ў праўленне гуртка наступныя асобы: Аляксандр Каленік — старшыня, Юрка Сівіцкі — сакратар, Галіна Канстанчук — скарбнік, Іван Ліханаў і Павел Санік — члены. Дэлегатам на VIII з'езд БГКТ выбраны Аляксандр Каленік. 8 асоб уступіла ў рады БГКТ.

■ У той жа дзень адбыўся справаздачна-выбарны сход у вёсцы Астрава. Абслужыў яго Сакрат Яновіч. Пяціасабовае праўленне гуртка ўзначаліла Марыя Цюрук. Сакратаром выбрана Крыстына Хала, скарбнікам — Юрка Тарасевіч, а членамі — Бажэна Сакалевіч і Данута Санік. Чатыры асобы выказалі жаданне быць членамі БГКТ. Дэлегатам на з'езд выбрана Марыя Цюрук.

■ 31 студзеня адбыўся таксама справаздачна-выбарны сход у гуртку БГКТ у Грэбенях (гміна Дуброва Беластоцкая), на якім было выбрана новае праўленне: Уладзімір Ляўко — старшыня, Уладзімір Лантоўскі — сакратар і Уладзімір Салейка — скарбнік. 4 асобы прыняты ў рады БГКТ. Сход абслужыла кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП Яўгенія Іванюк.

■ 1 студзеня ў памяшканні ГП БГКТ адбыўся агляд беларускай песні, арганізаваны двума аддзеламі — гарадскім у Беластоку і беластоцкім.

■ 4 студзеня Галоўная рэвізійная камісія правяла кантроль статутовай дзейнасці ГП БГКТ за 1975 год. (мх)

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Працаўнік магазіна быў злоўлены ў час крадзежы будаўнічых матэрыялаў. Матэрыялы, якія ён забраў, былі ацэнены на 1400 зл. Аднак інвентарызацыя, праведзеная пасля гэтага, выказала недахоп амаль на 50 000 зл. Паводле ўмовы аб супольнай адказнасці за тавары, у магазіне адказвалі апрача гэтага працаўніка яшчэ два магазінеры. Суд прыгаварыў працаўніка да турэмнага заключэння і звароту прадпрыемству 1400 зл. Таксама за выкліканы з-за нядбаласці недахоп тавараў на 48 000 зл. прадпрыемства падало ў суд супраць усіх траіх, адказных за магазін. Магазінеры лічаць, што адказваць павінен толькі той працаўнік, бо яго злавілі на пакражы. Ці ў гэтым выпадку павінен адказваць толькі ён, ці таксама і іншыя магазінеры?

АДКАЗ: Калі б было даказана, што ўвесь недахоп выкліканы пакражамі, зробленымі працаўніком, то іншыя магазінеры не адказвалі б за недахоп. А даказаць гэта маюць абавязак магазінеры, якія на гэта спасылаюцца. Адных здагадак, што, калі працаўнік украў на 1.400 зл., то мог украсці і на 48 000 зл., недастаткова, каб прыняць адказнасць толькі таго працаўніка. Хаця суд прыгаварыў працаўніка толькі за крадзеж тавараў на 1.400 зл., няма перашкод, каб даказаць, што ён украў значна больш, або што ўвесь недахоп выкліканы яго пакражамі. Калі магазінеры гэтага даказаць не змогуць, будуць адказваць згодна з умовай аб супольнай адказнасці за недахоп, у справе якога няма доказаў, што ён выкліканы пакражамі.

## Сардэчныя тайны

Я яшчэ маладая, мне яшчэ няма і 18 год, а колькі я ўжо перажыла, свет стаў нямілы і не бачу сэнсу жыцця. Пакінуў мяне хлопец, з якім хадзіла паўтара года. Міхась быў вельмі прыгожы, і я пакахала яго ўсім сэрцам. Ён з суседняй вёскі, часта мяне наведваў, часамі і па некалькі дзён у нас праседжваў. Ужо нават аб вяселлі гаварылі. Апошні раз быў у мяне перад каляднымі святамі, але ад тае пары больш не паказаўся. Я ўсё чакала, выглядала, урэшце спаткала дзяўчыну з яго вёскі, і яна мне аб усім расказала. Аказваецца, ёсць у яго дзяўчына. Гуляў з ёю на святы на забаве, і ўвогуле часта яна іх бачыць разам. „Сэрцайка", не магу я гэтага перажыць, не магу забыць прыгажуна Міхася.

Ірэна з Бельска

Ірэна, у маладосці закахацца лёгка. Дастаткова, што хлопец прыгожы. А ці прыгажосць гэта асноўнае ў жыцці? Лічыцца ж і характар, толькі маладым цяжка гэта зразумець. Прыгажосць з цягам часу мінае, а характар астаецца нязменным. Твой хлапец цябе падвёў, але не падай духам. Ты яшчэ вельмі маладая, жыццё перад табой і хлопцаў-прыгажуноў у нас нямала.

**„Сэрцайка"**

## Вер-не-вер

*Дарагі Астроне! Ты ўсё ведаеш і аб усім пішаш. Але не пісаў ніколі, што абазначаюць птушкі. А мне нядаўна прыснілася, што нібыта выйшла я ўначы з спальні і ўвайшла ў гасцінны пакой. І хаця навокал цемра, я бачу, што ў пакой уляцела птушка. Ці мой сон хаця не прадбачвае нічога дрэннага?*

*Верная чытачка*

Якраз наадварот. Цемра, у якой вы апынуліся, абазначае спакой і дабрабыт, а птушка, што ўляцела ў ваш пакой — дадатковую, неспадзяваную радасць.

*

*Астрончык, снілася мне, што лізаў мяне сабака. Вялікі, бестыя, перакульваў мяне і лізаў па твары. Што б гэта значыла?*

Ю. З.

Абазначае гэта, што ёсць у вас добры адданы прыяцель. Можаце на яго разлічваць.

**Астрон**

### ЭТНАГРАФІЧНАЕ АКЕНЦА



*Адна з сялянскіх сядзіб у Дарожках (гміна Юхновец).*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## Куток практычных ведаў




### КАЛІ НЕ ХОЧАШ ПРАСТУДЗІЦЦА

Ці ведаеце вы, што, каб пазбегнуць розных прастуд, грыпаў, ангін, запалення верхніх дыхальных шляхоў, трэба не столькі цёпла апранацца, колькі рацыянальна і разумна есці?! Пастаянны „давоз" у арганізм вітаміна С і іншых вітамінаў, спажыццё дастатковай колькасці калорый — паспяхова ахоўваюць чалавека ад прастуды.

Можна таксама выкарыстоўваць лячэбныя расліны. Яшчэ старажытныя грэкі раілі лячыць прастуду пры дапамозе тоўчанага часнаку, змешанага з мёдам. Адным словам, натуральнымі сродкамі. Напэўна дзіўны будзе смак гэткай „мяшанкі", тым не менш, усім вядома, што як часнаку, так і мёду ўласцівы бактэрыябойчыя якасці, і таму варта гэтымі прадуктамі карыстацца пры прастудзе.

Трэба звярнуць асаблівую ўвагу на вопратку. У гэтых адносінах варта было б пераняць традыцыі французаў, якія найцяплей „трымаюць" ногі, найхаладней — галаву. Кожны, такім чынам, можа дадумацца, што жанчына, якая выходзіць у футравай шапцы і тоненькіх панчохах, мае найбольшыя шанцы прынесці дахаты грып.

Трэба апранацца разумна (дзяцей апранаць так сама). Вопратка павінна быць цёплая, але лёгкая, заўсёды варта апрануць цёплыя шкарпэткі ці панчохі, жанчынам, якія ходзяць у спадніцах, — цёплыя шарсцяныя штаны і цёплыя, зручныя зімовыя боты.

У выпадку, калі ўжо вас трасе, калі дрэнна сябе адчуваеце і ў вас высокая тэмпература, прапануем: аспірынка, напар з маліны (найлепш сушанай) і дзень-два ў ложку, у добра праветраным пакоі.

**Эскулап**

## Мала, але цікава

### КОЛЬКІ ВАЖЫЦЬ НЕЙТРОННАЯ ЗОРКА?

Колькі можа важыць малюсенькая нейтронная зорка? Астрафізікі Масачусетскага тэхналагічнага інстытута (МТІ) у Кембрыджы заявілі, што ім удалося змерыць масу адной такой зоркі.

Для вымярэння была ўзята нейтронная зорка, вядомая пад назвай „Ветразі Х-І". Даследаванне рабілася пры дапамозе штучнага спадарожніка Нацыянальнага ўпраўлення па аэранаўтыцы і даследаванню касмічнай прасторы. Як паведаміў д-р Джэфры Маклінтак з цэнтра касмічных даследаванняў МТІ, „крошка" „Ветразі Х-І" дыяметрам усяго 16 кіламетраў важыць сама меней у 1,7 раза больш за Сонца. Каб уявіць, наколькі цяжкая маса гэтай нейтроннай зоркі, уявіце сабе звычайную гарошыну, зробленую з гэтай масы, якая важыла б усяго...... адзін мільярд тон, сказаў д-р Дж. Маклінтак.




Шчарбак, прыгўстаўшы на каленях, усё аглядаў наваколле. Немцы на выспе патроху варушыліся ў раскапанай зямлі, з боку ад іх на дарозе імчалі аўтамабілі ў бок фронту. У снегавым прасторы яшчэ паяснела, але неба скрозь было захутана шэрасцю хмар, дзьмуў сцюдзёны марозны вецер.

У той час заварушыўся, застагнаў у саломе маёр, відаць было па ўсім, што ён ледзьве ліпеў на апошніх рэштках жыцця, і Цімошкін падумаў, што было б зусім недарэчна пасля ўсяго, што сталася, даць яму загінуць тут, за некалькі, можа, гадзін да паратунку. Пэўна, такі ж клопат адчуваў і Шчарбак. Хлопец стомлена падняўся на ногі, углядзеўся ў снежны абшар, і позірк яго, відаць, нечакана ўпаў на той маленькі хутар, што адзінока чарнеў у канцы пасадкі.

— У хутары, не бачылі, немцаў няма? — запытаўся Іван.

— Чорт іх ведае, можа і ёсць.

— Ды няма там нікога, — упэўнена абвясціў Блішчынскі.

Тая яго ўпэўненасць раззлавала Цімошкіна.

— А ты хадзіў туды, ці што? — непрыязна запытаўся хлапец.

— Не хадзіў, затое глядзеў увесь дзень. Разумееш?

Шчарбак недаверліва паглядзеў на Блішчынскага, пасля зірнуў на Цімошкіна і ўзяў з саломы аўтамат.

— Я збегаю. Калі можна будзе, перанясём маёра туды.

— Ваня, пастой, — усхапіўся Цімошкін. — А можа там немцы?

— Няхай сходзіць, — ціха, але настойліва сказаў Блішчынскі. — Чаго баяцца?

— Ваня, не ідзі! — запярэчыў Цімошкін, але хіба можна было перайначыць ягонага сябра? Ужо такі быў гэты чалавек, што калі закарціць у яго якое жаданне, дык ён даможацца свайго.

— Я хутка. Ты паглядзі тут, — сказаў ён Цімошкіну, паправіў шапку і пайшоў. У Цімошкіна нешта балюча трапянулася ў грудзях.

— Што ты на другіх выязджаеш? — крыкнуў ён земляку. — Чаго сам не сходзіш? Зноў за чужую спіну схаваў-

Але яны ўжо засталіся ўдвух, і Блішчынскі зноў стаў ранейшым — упэўнена-нахабным у адносінах да Цімошкіна. Нічога не адказаўшы, ён ваўкавата, спадылба, глядзеў на яго, ад нейкай прытоенай злосці раздзімаў свае ноздры і лепей масціўся ў саломе. Толькі канчаткова прыладзіўшыся, заначыў з намёкам на нейкі шматзначны сэнс:

— А кліна ад гарматы ў яго ўсё ж няма...

Цімошкін спачатку не зразумеў, а калі здагадаўся, што гэта ён пра Івана, здзіўлена паглядзеў на земляка. Той спакойна, з падрыхтаваным здзекам вытрымаў яго позірк.

— Ну і што? — запытаў Цімошкін, адчуваючы, што нясцерпна ненавідзіць яго.

— А нічога. Так. Для памяці...

Нешта ён затаіў у сабе супраць Шчарбака, але Цімошкіна ўжо не дужа цікавіла тое. Яго ахапіла трывога. Ён сам не ведаў чаму, але ўсё яго нутро пратэставала супраць Шчарбаковай разведкі хутара. Гэта праўда, што небяспека там была невялікая, немцы на пагорку і на дарозе занадта далёка, каб у адзінокім чалавеку на полі пазнаць ворага. Але неяк невыразна і ўпарта адчуваў ён, што гэта — крок да іхняй новай бяды. І хлопец прыціх, прыдушаны тым прадчуваннем, змоўк і, стаўшы на калені ў саломе, глядзеў услед сябру.

А Шчарбак тым часам абышоў заснежанага каня і ўпэўненай хадой рашучага чалавека пайшоў сабе, усё аддаляючыся, у завейны снегавы прастор.

7

Угары спакваля праяснела, хмары спаўзлі з небасхілу, пакінуўшы за сабой рэдкую бялявую смугу, якая абвалакла, прытушыла нізкае сцюдзёнае сонца. Пераможанае зімовай стыхіяй, яно маленькаю жоўтаю плямкай бяссільна павісела над краявідам і паціху пайшло на закат.

Па ўсім вялізным прасцягу, з краю ў край снегавой роўнядзі, слалася, імчала завея. Нястомны працаўнік вецер гнаў і гнаў некуды разматляныя космы снегу, раўняў, выдзьмуваў, па-свойму аздабляў і перайначваў белы зімовы прастор. Рэдкія калівы быльнягу на ўзмежку роспачна няспынна трымцелі, вецер ірваў, церабіў салому са сцірты; хапіўшы снегавога пылу, злосна кідаў яго пад застрэшак. Маёр зноў сціх у забыцці. Блішчынскі ўціснуўся спіной у салому, закапаў у яе ногі, сашчапіў у рукавах рукі і курчыўся так — заклапочаны, панылы і маўклівы. Цімошкін жа, забыўшыся на несціханы свой боль, не чуючы ўжо адубелых ног, стаяў на каленях і неадрыўна сачыў за Іванам.

Ён усё далей ішоў ад сцірты, трошкі апусціўшы правае з аўтаматам плячо, па-качынаму, нетаропка і дужа валюхаючыся ў бакі. Вецер вырываў з-пад

